Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

13 чэрвеня 1991 г. ЧАЦВЕР

№ 114 (21642)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ДЗІЎНАЯ РАЎНАДУШНАСЦЬ

**ШЧУЧЫН. (М. Сасноўскі). Амаль год таму назад па ініцыятыве праўлення калгаса «1 Мая» ў гаспадарцы было запланавана будаўніцтва каўбаснага цэха. Але, на здзіўленне, гэта прапанова не знайшла ніякай падтрымкі з боку ўпраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкома. У выніку калгас вымушаны быў звярнуцца да так званых «шабашнікаў». Аднак апошнія аказаліся несур'ёзнымі ды і некампетэнтнымі спецыялістамі, бо прадстаўлены імі праект забудовы быў забракаваны абласной будаўнічай экспертызай. Больш 20 паправак і ўдакладненняў было ўнесена экспертамі!**

У будаўніцтва цэха планавалася ўкласці 1 мільён рублёў. Але ў трэцім квартале мясцовая МПМК-166 абавязалася асвоіць мізер — толькі 80 тысяч рублёў. Астатнія ж грошы, па сцвярджэнню будаўнікоў, будуць асвоены толькі ў 1992 годзе, хаця па ўмовах дагавора ў пачатку будучага года цэх павінен ужо даваць прадукцыю. Вось так, з кім павядзешся...

### БАЛЬНІЧНЫ ГАРАДОК—ГОРАДУ

**ДОКШЫЦЫ. (М. Аўтух). Тут завершана будаўніцтва новага гарадка цэнтральнай раённай бальніцы. Будаўніцтва вялося за сродкі мясцовага бюджэту. Літаральна днямі апошні трохпавярховы корпус тэрапеўтычнага аддзялення перададзены будаўнікамі жыхарам горада. Тут ужо ўстаноўлена 50 ложкаў, абсталявана памяшканне для хуткай дапамогі.**

Значна палепшаны ўмовы для работы ўрачоў і медыцынскіх сясцёр такіх асноўных аддзяленняў, як дзіцячае, тэрапеўтычнае, хірургічнае. Навейшай апаратурай аснашчана паліклініка — цяпер яна можа прымаць большую колькасць людзей, чым раней. За валютныя сродкі торфабрыкетнага завода «Віцебскі» закуплена абсталяванне для новага зубапратэзнага кабінета.

### 2 МІЛЬЁНЫ—НЕ ПЕРАШКОДА

**Пасажырам, якія прыбываюць на Мінскі вакзал, цяпер зусім не абавязкова ісці па шматлікіх ступеньках канкорса, каб трапіць у новую залу чакання. На верх іх падыме эскалатар, першы цыкл якога пушчаны ў эксплуатацыю. Незвычайнасць яго ў тым, што эскалатар такога тыпу змантыраваны ўпершыню ў краіне. Работы ў гэтым напрамку вяліся ленінградскім аб'яднаннем «Эскалатар» і адной з брыгад мінскага метрапалітэна.**

**Для Беларускай чыгункі гэта каштавала больш як 2 мільёны рублёў.**

### З МЯСЦОВЫХ РЭЗЕРВАЎ

**СЛУЦК. (Г. Лемеш). Тут добра зразумелі, што калі спадзявацца толькі на «цэнтр», тады ўсе праблемы вырашаюцца даволі марудна. Таму і вырашылі паўней выкарыстоўваць мясцовыя рэзервы. Праблему папаўнення неабходных будаўнічых матэрыялаў дапаможа зняць новае малое прадпрыемства «Камора» па здабычы пясчана-гравійнай сумесі.**

Прадпрыемства — сумеснае дзецішча сельскага будаўнічага камбіната і саўгаса імя Арджанікідзе, на тэрыторыі якога будуць ісці работы, дарэчы бясшкодныя для прыроды. А са сваімі будаўнічымі матэрыяламі, аснову для якіх стварае «Камора», раёну будзе лягчэй выканаць жыллёвую і іншыя праграмы.

### ЮНЫЯ МЕНЕДЖЭРЫ

**МАГІЛЁЎ. Тут адбыўся першы выпуск школы юных менеджэраў. Яна была створана на грамадскіх асновах, памяшканне для заняткаў прадаставіў грамадска-палітычны цэнтр абкома КПБ, а навучальна-метадычную праграму падрыхтавала фірма «Кансультант».**

Амаль чатыры месяцы пад кіраўніцтвам вучоных, эканамістаў, сацыёлагаў і псіхолагаў вучні 10 і 11 класаў вывучалі асновы маркетынгу, новыя формы гаспадарання, сацыяльна-псіхалагічныя аспекты кіравання і іншыя дысцыпліны. Сёлета пасведчанні аб заканчэнні школы атрымалі 58 вучняў. З новага навучальнага года вырашана прадоўжыць яе работу, а філіял адкрыць і ў Бабруйску.

### СЯЛЯНЕ СПАДЗЯЮЦЦА НА ПАРЛАМЕНТ

**Работнікі аграпрамысловага комплексу Магілёўскай вобласці накіравалі ў Вярхоўны Савет БССР зварот. Яны патрабуюць прыняць неадкладныя меры, якія спынілі б далейшае спаўзанне сельскай гаспадаркі ў бездань.**

У дакуменце прыводзяцца не толькі факты неэквівалентнага абмену паміж горадам і вёскай, а называюцца розныя «крыніцы» рабавання сялянскіх гаспадарак. Усялякія адлічэнні з калгасаў і саўгасаў вобласці павялічваюцца сёлета ў 18 разоў і складаюць 250 мільёнаў рублёў супраць 14 мільёнаў леташніх.

Сяляне Магілёўшчыны патрабуюць ад парламента рэспублікі знайсці магчымасці для павышэння з 1 ліпеня закупачных цэн на жывёлу і птушку да 7—8 тысяч рублёў за тону, устанавіць эквівалентныя цэны на матэрыяльныя рэсурсы, сельскагаспадарчую прадукцыю, захаваць падаткаабкладанне на ўзроўні 1990 года.

### БЕЛАРУСКАЯ УНІВЕРСАЛЬНАЯ БІРЖА: «НОУ ХАУ»—ЗА 100 РУБЛЁЎ

**МІНСК. (І. Пажога). Беларусы, як вядома, заўсёды славіліся сваёй працавітасцю, не страцілі яны гэтай якасці і цяпер. Але вось бяда: як ні імкнуцца іншыя вытворчыя калектывы зрабіць больш і лепш, а адчувальных вынікаў не відаць. Яно і зразумела: былыя сувязі паміж пастаўшчыкамі сыравіны і вытворцамі канчатковай прадукцыі страчаны, а прынцып рыначнага забеспячэння матэрыяльнымі рэсурсамі ў нас пакуль не ўкараніўся. Аднак шанц паправіць свае справы ў прадпрыемстваў ёсць.**

Гэты шанц можна выкарыстаць і сёння, калі Беларуская універсальная біржа праводзіць чарговыя торгі. У іх прымаюць удзел больш як 140 брокераў ад заснавальнікаў і членаў біржы, а таксама ад так званых разавых удзельнікаў — прадпрыемстваў, дапушчаных да торгаў. Спецыялісты-брокеры — якраз тыя людзі, якія ведаюць, дзе, што і па якой цане прадаецца, як набыць вельмі неабходныя для вытворчасці матэрыялы і сыравіну. Адным словам, гаворачы мовай сучаснага дзелавога свету, валодаюць сакрэтам «ноу хау» — як зрабіць.

Прадэманстраваць свае магчымасці на торгах змогуць і прадаўцы, і пакупнікі. Тут можна з выгадай для свайго прадпрыемства набыць будматэрыялы, металапрадукцыю, вырабы машынабудавання, радыёэлектронную апаратуру, бытавыя машыны і многае іншае. Усяго на торгі прад'яўлена прадукцыі і тавараў на суму больш як 40 мільёнаў нашых рублёў і на 350 тысяч у свабодна канверсуемай валюце.

Калі ж які-небудзь завод ці фабрыка не з'яўляецца членам біржы, не атрымалі запрашэння для ўдзелу ў яе рабоце — бедаваць не трэба. Госці біржы таксама маюць там пэўныя правы, могуць карыстацца паслугамі брокераў: для гэтага дастаткова набыць уваходны білет, кошт якога 100 рублёў. Так што пажадаем тым, хто адчувае ў сябе цягу да сапраўднага бізнесу: завітайце сёння на Беларускую універсальную біржу ў Мінску, вул. Казінца, 2 і купляйце ўваходны білет. Зусім магчыма, што ён акажацца для вас шчаслівым.



35 гадоў прайшло з таго часу, як адбыўся першы выпуск маладых спецыялістаў Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. Сёння ў розных кутках рэспублікі і за яе межамі працуюць каля 30 тысяч выпускнікоў інстытута. У гэтай навучальнай установе ёсць усе ўмовы для набыцця трывалых ведаў. Тут працуюць студэнцкія навукова-даследчыя гурткі, дзе будучыя спецыялісты займаюцца актуальнымі праблемамі механізацыі, электрыфікацыі, аўтаматызацыі сельскай гаспадаркі. Калектыў выкладчыкаў, прафесараў робіць усё неабходнае, каб іх выхаванцы сталі добрымі спецыялістамі, усебакова адукаванымі людзьмі. Адзін з тых, хто прыкладае шмат намаганняў у гэтым напрамку, — Мікалай Іванавіч Сёмкін, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, дэкан факультэта механізацыі сельскай гаспадаркі. Трыццаць гадоў назад ён скончыў гэты ж факультэт, працаваў у Міністэрстве сельскай гаспадаркі БССР, у навукова-даследчым інстытуце, потым вярнуўся ў родны інстытут і ўжо 15 гадоў з'яўляецца дэканам факультэта.

У час шматлікіх камандзіровак у калгасы і саўгасы рэспублікі асабіста мне давялося пачуць (і не аднойчы!) ад былых выпускнікоў інстытута аб высокіх прафесіянальных якасцях Мікалая Іванавіча, яго чалавечай добразычлівасці, уменні выслухаць і зразумець студэнта.

**На здымку: М. І. Сёмкін** са студэнтамі V курса Віктарам **Лукашэнем,** Аляксандрам **Станкевічам,** Анатолем **Храбрым.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

*Пастанова Бюро Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі*

## ПАЗІЦЫЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ ПА ПЫТАННЮ НАЗВЫ БУДУЧАЙ САЮЗНАЙ ФЕДЭРАЦЫІ

Як вядома, чацвёрты з'езд народных дэпутатаў СССР разгледзеў пытанне «Аб назве Савецкай дзяржавы» і большасцю галасоў (шляхам пайменнага галасавання) прыняў рашэнне захаваць цяперашнюю назву СССР — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. З'езд выказаўся за цэласнасць краіны і яе ранейшую назву, падкрэсліўшы, што яны абумоўлены гістарычнай супольнасцю савецкіх народаў, існуючымі паміж імі сувязямі.

Па рашэнню з'езда народных дэпутатаў СССР гэта пытанне выносілася на ўсенароднае галасаванне (рэферэндум). Пастановай Вярхоўнага Савета СССР у бюлетэнь для тайнага галасавання была ўключана наступная яго фармулёўка: «Ці лічыце вы неабходным захаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай федэрацыі раўнапраўных суверэнных рэспублік, у якой будуць у поўнай меры гарантавацца правы і свабоды чалавека любой нацыянальнасці». Вынікі рэферэндуму вядомы: 76,4 працэнта, або абсалютная большасць грамадзян краіны, якія прынялі ўдзел у рэферэндуме, выказалася ў падтрымку цэласнасці і будучага развіцця Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Сваю цвёрдую волю выказалі і больш як 5 млн. грамадзян Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі: 82,7 працэнта прыняўшых удзел у рэферэндуме прагаласавала за захаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

У сувязі з гэтым выклікае здзіўленне пазіцыя падрыхтоўчага камітэта па завяршэнню работы над праектам новага Саюзнага дагавора, які прапанаваў новую назву будучай федэрацыі — Саюз Савецкіх Суверэнных Рэспублік, апусціўшы слова «сацыялістычных». У якасці доваду прыводзіцца дзіўны аргумент: гэта слова з'яўляецца нібыта «ідэалагічным сімвалам» і няма нічога падобнага ў назвах іншых краін свету.

Падрыхтоўчы камітэт фактычна праігнараваў рашэнне з'езда народных дэпутатаў СССР як вышэйшага органа дзяржаўнай улады краіны, вынікі ўсенароднага рэферэндуму, а значыць — волю савецкіх людзей.

Гэты факт выклікаў шматлікія водгукі ў партыйныя, савецкія органы рэспублікі, у якіх камуністы, большасць працоўных Беларусі выказваюць сваё гнеўнае абурэнне і рашучы пратэст.

Выходзячы з таго, што пытанне аб назве дзяржавы мае прынцыповае значэнне і ніхто акрамя самога народа не мае права ўзяць на сябе гістарычную адказнасць за будучыню развіцця Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, выказваючы сваю нязгоду з пазіцыяй падрыхтоўчага камітэта па завяршэнню работы над праектам новага Саюзнага дагавора і падтрымліваючы шматлікія патрабаванні камуністаў, працоўных рэспублікі рашуча адхіліць усякія спробы дзейнічаць наперакор волі народа, Бюро ЦК Кампартыі Беларусі **пастанаўляе:**

1. Звярнуцца да Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Прэзідэнта СССР М. С. Гарбачова з прапановай прыняць усе неабходныя меры да таго, каб у адпаведнасці з волевыяўленнем народаў нашай многанацыянальнай Айчыны захаваць яе назву — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, у якой спалучаюцца каштоўнасці гістарычнага мінулага, вызначаецца будучыня грамадска-палітычнай будовы нашай дзяржавы.

2. Бюро ЦК Кампартыі Беларусі звяртаецца да Палітбюро ЦК КПСС з заклікам актывізаваць дзеянні ў падтрымку выражанай на рэферэндуме СССР волі савецкага народа, які выступае за абноўленую саюзную федэрацыю пад назвай Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Сродкамі арганізатарскай, ідэалагічнай, прапагандысцкай работы, партыйнага друку ўзняць камуністаў на абарону сацыялістычнага выбару нашага народа, даць рашучы адпор спробам асобных палітычных груповак і іх лідэраў змяніць палітычны курс развіцця нашай дзяржавы.

3. Прасіць рэдкалегію газеты «Праўда» давесці да ведама чытачоў змест гэтай пастановы.

*12 чэрвеня 1991 года.*

*Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

**Аб выбранні т. ЯРМОЛЕНКАВА Ф. Ф. членам Мінскага абласнога суда і т. БАСАВА М. П. членам Мінскага гарадскога суда**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Выбраць:

**Ярмоленкава** Фёдара Фёдаравіча — членам Мінскага абласнога суда.

**Басава** Міхаіла Пятровіча — членам Мінскага гарадскога суда.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

7 чэрвеня 1991 года.
г. Мінск.

## СТАЧКОМЫ ПАВІННЫ ЛІЧЫЦЦА З ЗАКОНАМ

Разгледзеўшы зачытанае на сесіі Вярхоўнага Савета БССР адкрытае пісьмо рэспубліканскага стачачнага камітэта ў мой адрас, павінен заявіць народным дэпутатам, што я расцэньваю яго як яшчэ адно парушэнне дзеючых законаў з боку кіраўнікоў стачкомаў, у прыватнасці, сустаршыні Мінскага гарадскога стачачнага камітэта народнага дэпутата БССР С. А. Антончыка. У зачытаным ім пісьме змяшчаецца непрыкрытая спроба аказаць націск на органы пракуратуры і прымусіць нас спыніць законную дзейнасць. Такія паводзіны народнага дэпутата, які ў сілу Закона БССР ад 13 лютага 1991 г. «Аб статусе народнага дэпутата Беларускай ССР» павінен пры выкананні сваіх паўнамоцтваў кіравацца законам, проста недапушчальныя.

Ацэньваючы дзейнасць утвораных на прадпрыемствах рэспублікі стачачных камітэтаў, магу сказаць, што цяпер з фарміраванняў працоўных калектываў яны, па сутнасці, ператварыліся ў органы, якія ўзначалілі масавы грамадскі рух. У такой сітуацыі ў нас ёсць усе падставы патрабаваць ад стачкомаў адпаведнасці іх дзейнасці Закону СССР ад 9 кастрычніка 1990 г. «Аб грамадскіх аб'яднаннях». Распаўсюджанне на дзейнасць стачачных камітэтаў палажэнняў названага закона ні ў якім выпадку не з'яўляецца парушэннем канвенцый Міжнароднай арганізацыі працы, як гэта спрабуюць паказаць аўтары адкрытага пісьма. У даным выпадку размова ідзе не аб забароне або абмежаванні стваральных, а аб патрабаванні да стачкомаў дзейнічаць у рамках існуючых законапалажэнняў.

На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што кіраўнікі стачачнага руху лічыцца з дзеючым заканадаўствам не жадаюць. Калі ў пачатку красавіка гэтага года мітынгі прайшлі стыхійна, на хвалі справядлівага абурэння працоўных ростам цэн, то ў далейшым стачкомамі ўжо ажыццяўляліся дакладна арганізаваныя, загадзя спланаваныя палітычныя акцыі. Таму мы не прымянялі і не будзем прымяняць мер уздзеяння да ўдзельнікаў забастовачных акцый пачатку красавіка, хоць фармальна закон і быў парушаны. Але ў адносінах да ўсіх наступных дзеянняў ёсць поўныя падставы гаварыць аб наўмысным ігнараванні стачкомамі дзеючых законаў. У сувязі з гэтым 29 красавіка Мінскаму гарадскому стачачнаму камітэту ў адпаведнасці з арт. 21 Закона СССР ад 9 кастрычніка 1990 г. «Аб грамадскіх аб'яднаннях» і было зроблена афіцыяльнае пісьмовае папярэджанне. Кіраўнікі гарадскога стачкома спрабуюць сёння паказаць справу такім чынам, што папярэджанне зроблена ў сувязі з нерэгістрацыяй стачкома, і трактуюць яго як умяшанне пракуратуры ў іх дзейнасць. Але ж гэта далёка не так. У тэксце папярэджання недвухсэнсава ўказваецца на дапускаемыя стачкомам парушэнні закона і ставіцца патрабаванне аб спыненні процізаконнай дзейнасці.

Пракуратура не забараняла і не можа забараняць якому-небудзь грамадскаму руху палітычных пытанняў, але мы маем права і абавязаны запатрабаваць дзейнічаць у рамках існуючых законаў. Адно з асноўных патрабаванняў, якое мы прад'яўляем кіраўнікам стачачнага руху, заключаецца ў спыненні ўмяшання ў дзейнасць органаў дзяржаўнай улады, што прама забаронена арт. 5 Закона СССР ад 9 кастрычніка 1990 г. «Аб грамадскіх аб'яднаннях» і арт. 9 Закона БССР ад 27 лютага 1991 г. «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР».

Мы не аспрэчваем права ўдзельнікаў стачачнага руху выказваць свае прапановы і заўвагі па рабоце Вярхоўнага Савета БССР, урада рэспублікі, праваахоўных і іншых органаў, але калі гэтыя прапановы сілай навязваюцца органам дзяржаўнай улады, інакш як беззаконнасцю гэта назваць нельга. І мы маем права запатрабаваць спынення гэтых проціпраўных дзеянняў, тым больш што 20 мая г. г. Вярхоўны Савет СССР унёс змяненні ў Закон СССР ад 9 кастрычніка 1989 г. «Аб парадку вырашэння калектыўных працоўных спрэчак (канфліктаў)», і палітычныя забастоўкі, як форма націску на органы ўлады, прызнаны незаконнымі.

Па дапушчаных фактах парушэнняў дзеючага заканадаўства органамі пракуратуры ўзбуджаны крымінальныя справы. Але зроблена гэта не для праследавання ўдзельнікаў стачачнага руху, як сёй-той спрабуе паказаць, а з мэтай спынення такіх парушэнняў закона ў далейшым. Нас ніхто не можа папракнуць у тым, што проціпраўныя дзеянні, не выкарыстоўваючы сілу Крымінальнага закона. Меры пераканання намі выкарыстоўваліся практычна пастаянна на працягу ўсяго красавіка. І толькі тады, калі мы пераканаліся, што ўгаворы не дзейнічаюць, былі ўзбуджаны крымінальныя справы.

Што датычыць сцвярджэння народнага дэпутата БССР С. А. Антончыка аб тым, што органы пракуратуры дзейнічалі ў інтарэсах Кампартыі Беларусі, абараняючы партыйныя камітэты на прадпрыемствах, то гэта сапраўды так. Чаму пракуратура павінна стаяць у баку, калі парушаюцца законныя правы партыйных арганізацый, гарантаваныя ім Канстытуцыяй СССР і Канстытуцыяй Беларускай ССР? І гэтак мы будзем дзейнічаць у інтарэсах любой палітычнай партыі або грамадскага руху, калі іх правы і законныя інтарэсы будуць ушчамляцца.

Поўнасцю згодзен са сцвярджэннем аўтараў адкрытага пісьма аб тым, што праваахоўныя органы, у тым ліку і пракуратура, зрабілі далёка не ўсё магчымае ў барацьбе са злачыннасцю і парушэннямі законнасці. Але гэта не можа служыць апраўданнем незаконных дзеянняў кіраўнікоў стачачнага руху. Калі б яны дзейнічалі ў рамках законаў, нам не прыйшлося б адцягваць нашых супрацоўнікаў на работу з імі і мы сапраўды маглі б выкарыстаць свае сілы з большай карысцю для ўмацавання правапарадку.

**Г. ТАРНАЎСКІ,**
**пракурор Беларускай ССР.**

## САЮЗ НЕПАРУШНЫ?..

### На сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Аб Саюзным дагаворы сказана і напісана ўжо больш чым дастаткова. І гэта, вядома ж, не выпадкова. Наша дзяржава, зайшоўшы ў небяспечны тупік, патрабуе рэфарміравання сваіх структур. Прычым — рэфарміравання неадкладнага, але ж, абавязкова абдуманага, узважанага, аб'ектыўнага. На жаль, пакуль рыхтуюцца і абмяркоўваюцца праекты, дапаўненні і змяненні ў Саюзны дагавор, усё больш і больш разбураюцца сувязі саюзных рэспублік, пагаршаюцца ўзаемаадносіны паміж імі, дысцыпліна ў краіне наогул... Як вынік, горшым становіцца і наша жыццё.

Да абмеркавання праекта Саюзнага дагавора прыступіў, нарэшце, і беларускі парламент.

Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Васіль Шаладонаў расказаў народным дэпутатам рэспублікі аб працэсе распрацоўкі і дапрацоўкі праекта дакумента. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што камісія беларускага парламента на чале з Мікалаем Дземянцеем надзвычай актыўна папрацавала ў міжрэспубліканскай групе па дапрацоўцы праекта Саюзнага дагавора. («Звязда» ў нумары за 2 красавіка падрабязна расказвала аб гэтым). Тады, дарэчы, па прапанове беларускай дэлегацыі ў праект быў унесены 25-ы артыкул, у якім фіксаваліся працэдуры, механізм і тэрміны рэалізацыі артыкулаў дагавора, інакш кажучы, ён забяспечваў поўнае і раўнапраўнае ажыццяўленне яго, забеспячэнне сапраўднага суверэнітэту кожнай рэспублікі. Зазначу тут ад сябе: у праекце, які прапанаваны нашым дэпутатам на абмеркаванне, гэты пункт... сфармуляваны інакш.

В. Шаладонаў выказаў і шэраг асабістых думак. Ён лічыць, што Саюз нам сёння вельмі патрэбен, аднак у кожнага наконт гэтага ёсць сваё асабістае бачанне яго. Добраахвотнасць уваходжання і выхаду з Саюза, прызнанне дэкларацый саюзных рэспублік аб суверэнітэце, права кожнага суб'екта на самавызначэнне, тэрытарыяльная цэласнасць і самакіраванне, прызнанне і замацаванне правоў чалавека, спалучэнне агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей, раўнапраўе, забеспячэнне нацыянальнай бяспекі—гэтыя і некаторыя іншыя канцэпцыі павінны ляжаць у аснове новага Саюзнага дагавора.

Паміж рэспублікамі, сказаў Васіль Шаладонаў, пастаянна ідуць кансультацыі. Робіцца ўсё, каб інтарэсы ніводнага суб'екта не былі ўшчэмлены. Галоўнае, зрабіць усё, каб у рэспублік былі агульныя канчатковыя мэты.

Звыш сарака народных дэпутатаў БССР прынялі ўдзел у абмеркаванні пытання. У зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета БССР гучалі апладысменты і воклічы незадавальнення—раўнадушных да нашай будучыні і на гэты раз не было.

Рыгор Вячэрскі зазначыў: у праекце Дагавора прасочваецца яўная тэндэнцыя да прыцяснення правоў саюзных рэспублік. Саюзны дагавор павінен складацца з трох роўных частак: эканамічнага, палітычнага і ваеннага дагавораў. А падпісанне яго павінна суправаджацца выбарамі новага прэзідэнта краіны і фарміраваннем новага кабінета міністраў, паколькі цяперашнія кіраўнікі спадзяванні людзей не апраўдалі.

З ім не пагадзіўся народны дэпутат Міхаіл Мачуленка. Прапанаваўшы прыняць праект за аснову, ён сказаў: даручыць М. Дземянцею падпісаць ад імя рэспублікі Саюзны дагавор.

Старшыня адной з камісій Вярхоўнага Савета Пётр Садоўскі выступаў не ад імя даверанага яму фарміравання, а ад сябе асабіста. На яго думку, назвы дагавора і дзяржавы павінны адрозніваюцца. Прыняць дагавор у першым чытанні нельга...

Яўген Глушкевіч сказаў: здаровы сэнс і толькі ён павінен кіраваць сёння намі. Гэта—лёсаносны закон нашага жыцця. Шмат у ім супярэчнасцей, розначытанняў. Няма, у прыватнасці, механізму выхаду з Саюза. Недакладна сфармулявана грамадзянства ў краіне. Ён прапанаваў да падпісання Саюзнага дагавора напоўніць зместам Дэкларацыю аб суверэнітэце рэспублікі.

Барыс Гетц прапанаваў захаваць назву Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Замена назвы—адыход ад сацыялізму і спаўзанне да капіталізму. Падпісанне Дагавора, на яго думку, дазволіць ліквідаваць «вайну законаў», спыніць разгул беззаконня ў краіне, анархію і насілле.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

**ПАЎСТАГОДДЗЯ, што мінулі з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны, — тэрмін немалы не толькі для чалавека, але і для дзяржавы. За гэты час выраслі новыя пакаленні, змяняючы, на жаль, пакаленне пераможцаў, што пакідае жыццё. Сціхае боль страт, і гісторыя Вялікай Айчыннай, ахутваючыся смугой часу, усё больш становіцца прадметам даследавання толькі гісторыкаў. Мемуарны бум аб вайне, дасягнуўшы свайго эпагея ў 60—70-я гады, таксама пайшоў на спад, і параўнаўча рэдкія ўспаміны яе ўдзельнікаў ды перавыданні мемуараў военачальнікаў з адноўленымі купюрамі цяпер ужо не выклікаюць той вялізнай цікавасці ў шырокага кола чытачоў, як гэта было гадоў 20—30 назад.**

# Вялікая Айчынная: позірк скрозь гады

БЕЗУМОЎНА, нельга жыць мінулым, тым больш калі падзеі сённяшняга дня, уладарна ўрываючыся ў наша жыццё, патрабуюць не толькі іх неадкладнага вырашэння, але і вывучэння, аналізу. Але безумоўна і іншае: без мінулага няма сённяшняга. І памяць аб мільёнах чалавечых жыццяў, прынесеных на алтар Перамогі, заклікае нашчадкаў зноў і зноў вяртацца да гераічнага мінулага народа, краіны.

Але ёсць і іншая прычына, па якой немагчыма забыць пра вайну. Яна ў тым, што сёння знаходзіцца дастаткова «радыкальных» гісторыкаў, публіцыстаў, літаратараў, якія спрабуюць пад флагам «аб'ектыўнасці» перагледзець гісторыю барацьбы савецкага народа супраць чужаземных захопнікаў, паказаць яе не толькі як барацьбу за захаванне нацыянальнай незалежнасці, але перш за ўсё як «барацьбу за захаванне рабства», а нашу Перамогу — «надсаднай перамогай». Зноў рэанімірусцца ў свой час запушчаны фашысцкімі сродкамі прапаганды тэзіс аб «прэвентыўнай вайне» Германіі супраць Савецкага Саюза. І ўжо не з нацысцкіх дакументаў, мемуараў былых гітлераўскіх генералаў падносіцца нашай моладзі пра тое, што Гітлер, маўляў, вымушаны быў пайсці вайной на СССР, каб папярэдзіць задуму каварнага Сталіна, які рыхтаваўся напасці на Германію.

Пра «шчырасць» падобнага роду са старонак «Комсомольской правды» (5 студзеня 1991 г.) разважае, напрыклад, карэспандэнт газеты В. Кучкіна, прыводзячы ў якасці доказу расказ былога ваеннага разведчыка Б. Вітмана, які сцвярджае, што зварот Гітлера ў снежні 1940 года да плана «Барбароса» (г. зн. да плана нападу на Савецкі Саюз) быў выкліканы відавочнасцю вераломнай падрыхтоўкі Сталіна да вайны супраць Германії.

Каб стварыць у чытача бачнасць нязгоды з пунктам гледжання ветэрана, карэспандэнт піша: «Я спрабую запярэчыць Б. В.: а як жа летам Сталін накіраваў усіх вышэйшых афіцэраў у адпачынак? Б. В. на гэта адказвае: так, Сталін зрабіў гэта, спужаўшыся перамены гітлераўскіх планаў і жадаючы з усіх сіл паказаць Гітлеру, што яму, Сталіну, можна верыць таксама ж, як ён, Сталін, верыць Гітлеру». І ў фінале — наступны пасаж: «Бадай, гэта многае растлумачвае. І тое, што мы сустрэлі вайну, раззброіўшыся і страціўшы адразу людзей і больш за 70 працэнтаў тэхнікі. І тое, што Сталін пакідаў без увагі разведданыя аб пачатку вайны».

Усё, аказваецца, ясна, як божы дзень. Незразумела толькі, чым дагэтуль займаюцца Інстытут ваеннай гісторыі, шматлікія акадэмічныя інстытуты гісторыі, калі «Комсомолка» даўно ўжо «адкрыла» і «пераканаўча» абгрунтавала і прычыны пачатку вайны, і прычыны няўдач Чырвонай Арміі ўлетку — восенню 1941 года і г. д.

Яшчэ далей ідзе «Советская культура» (5 мая 1990 г.), публікуючы франтавы дзённік былога радавога Г. Лобаса, пракаменціраваны аўтарам праз 45 гадоў пасля яго стварэння. У ліку іншых посткаментарыяў газета прыводзіць і такі: «Мой 25-гадовы зяць неяк гаворыць: навошта такое пра Сталіна пішуць, ён жа вайну выйграў? Я яму адказаў: а **Сталін мог яе і не пачынаць»** (падкрэслена мною—**М. Ш.**). Па аўтару атрымліваецца, што не Гітлер, германскі фашызм, да чэрвеня 1941 года захапіўшы ўсю Еўропу, вінаваты ў нападзе на Савецкі Саюз, а Сталін, які «мог яе і не пачынаць». Што гэта? Фантазія пажылога чалавека, які яўна заблытаўся ў сваіх успамінах праз 45 гадоў? Ці жаданне газеты яшчэ раз, ды каб больш балюча, ударыць па той ране, якая і праз паўстагоддзя працягвае крывавіць?

У Сталіна, як вядома, і так занадта шмат злачынстваў перад народам, краінай, каб прыпісваць яму яшчэ і тое, у чым перш за ўсё вінаваты германскі фашызм — развязванне вайны. Акрамя таго, «аб'ектыўныя» крытыкі ўпарта не заўважаюць згодніцкай палітыкі кіраўніцтва заходніх краін, якія фактычна падштурхоўвалі Гітлера да нападу на Савецкі Саюз. Яны асуджаюць (і справядліва!) сакрэтны пратакол да пакта аб ненападзе паміж СССР і Германіяй, дагавор аб дружбе і граніцах, але чамусьці зусім пакідаюць па-за крытыкай мюнхенскае пагадненне, двухбаковыя пагадненні Англіі, Францыі з фашысцкай Германіяй, што папярэднічалі ім. Па іх атрымліваецца: «што дазволена Юпітэру, не дазволена быку», значыць — дэмакратам Чэмберлену, Даладзье можна, а дыктатару Сталіну — ратуй Божа!

Лёгка перакінуўшы масток ад вобраза Расіі — жандара Еўропы ў XIX стагоддзі — да «забіякі-Расіі» ў XX, гэтыя крытыкі адмаўляюць Савецкаму Саюзу ў праве абароны сваіх нацыянальных інтарэсаў, прытрымліваючыся прынцыпу: «чым горш для СССР, тым лепш для астатняга свету». Ці ж можна абараняць «імперыю зла»?

Другая прычына, што прымушае гісторыкаў працягваць паглыбленае даследаванне гісторыі вайны, у тым, што дагэтуль занадта шмат белых плям застаецца на яе гіганцкім палатне. Пачынаючы з мая 1945 года, галоўны акцэнт у гістарычных даследаваннях (як, дарэчы, і ў мастацкай літаратуры, кінематографе, выяўленчым мастацтве) рабіўся на пераможных аперацыях Чырвонай Арміі, якія сапраўды былі сведчаннем пастаянна растучага майстэрства савецкіх военачальнікаў, магутнасці арміі і флоту, поўных рашучасці давесці да канца разгром нямецка-фашысцкага агрэсара. І было б несправядліва папракаць гісторыкаў у кан'юнктуры: сацыяльны заказ на распрацоўку менавіта гэтых падзей фарміраваўся не толькі адным Сталіным (хоць і не без яго ўдзелу). Народ, перажыўшы трагедыю 1941 года, імкнуўся, як нам уяўляецца, не ўспамінаць без патрэбы аб падзеях лета — восені 1941 года: так шмат горкага было ў іх. «Не прынята» было пісаць аб паражэнні савецкіх войск пад Харкавам летам 1942 года, аб правале аперацыі ў Крыме і іншых трагічных эпізодах вайны, з якімі ў сваю чаргу звязана праблема савецкіх ваеннапалонных, што папаўнялі не толькі шматлікія брацкія магілы на тэрыторыях нацысцкіх канцлагераў, але і ўсялякія «добраахвотныя» фарміраванні, якія змагаліся супраць сваіх жа суайчыннікаў.

І гаворачы сёння пра неабходнасць паказаць усю праўду пра вайну, трэба пісаць не толькі пра патрыятызм савецкіх людзей, але і выкрываць карані такой з'явы, як калабарацыянізм. Неабходна паспрабаваць разабрацца, чаму не асобныя адшчапенцы, але цэлыя арміі («РОА», «УПА»), легіёны, дружыны, батальёны нашых суайчыннікаў апынуліся ў стане ворага. Што штурхала іх на здраду Радзіме, свайму народу? Ці толькі страшныя ўмовы ў гітлераўскіх канцлагерах ці ўсё ж сталіншчына, праявы якой ім давялося адчуць на ўласнай шкуры ў перадваенныя гады?

Але ж ні Уласава, удалага генерала першых дзён вайны, ні Бандэру, які хутчэй пацярпеў ад нацыстаў, асабіста не закранулі сталінскія рэпрэсіі, як не закрануў у свой час гнеў манарха і іх гістарычных прабацькоў — князя Курбскага і гетмана Мазепу, тым не менш здрадзіўшых: першы — Івану Грознаму, другі — Пятру 1. Атрымліваецца, не сталіншчына была галоўнай прычынай здрады, хоць, відаць, яна і мела пэўнае значэнне.

Цяпер сёй-той абвінавачвае камуністаў ў «смердзякоўшчыне» ледзь ці не «добрым тонам», звязваючы гэта з «Камуністычным маніфестам» («пралетарыят не мае сваёй Айчыны»). Але ці не камуністы першыя кінулі кліч «Усе на абарону Радзімы!» у гады Вялікай Айчыннай вайны? Ці не яны былі ў першых радах спачатку тых, хто абараняўся, а потым тых, хто атакаваў? Праўда, тут нашы апаненты могуць запярэчыць (і ўжо пярэчаць), што лозунг быў іншы — «За Радзіму! За Сталіна!», зводзячы такім чынам патрыятызм да абароны сталінскага рэжыму. Аднак нельга, на наш погляд, ставіць знак роўнасці паміж абаронай Радзімы і абаронай Сталіна, хоць у гады вайны гэтыя паняцці нярэдка і атаясамліваліся франтавікамі. Так, тады, у ліхую гадзіну, пераважная большасць людзей у душы сваёй былі сталіністамі, і спатрэбіўся час, XX з'езд партыі, каб пачалося пераасэнсаванне каштоўнасцей. І вось што сёння піша ветэран вайны і працы А. Аўчыннікаў з Віцебска: «Ваяваў не за Сталіна, а за сваю Радзіму, працаваў не на Брэжнева, а ў імя паляпшэння жыцця свайго народа, працвітання сваёй рэспублікі». Менавіта за Радзіму, вялікую і малую, за сваіх родных і блізкіх, за сваё жыццё змагаліся савецкія людзі з ворагам, і ўсведамленне справядлівасці гэтай барацьбы дапамагло ім атрымаць перамогу.

Сапраўды, 1941 год быў годам трагедыі нашага народа, але адначасова гэта быў і вялікі час ўздыму нацыянальнай самасвядомасці рускага, беларускага, украінскага і іншых народаў, што насяляюць нашу краіну. І наўрад ці адлюстроўвае яго шырока разрэкламаваная нядаўна некаторымі сродкамі масавай інфармацыі карціна П. Бялова «1941 год», на якой гіганцкая рука Сталіна з люлькай у руцэ зграбае людскую кашу насустрач танкам з крыжамі, пакідаючы на снежнай раўніне крывавыя мазкі.

Мінуць дзесяцігоддзі, стагоддзі, пра многае з гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ледзь ці ўспомняць нашы нашчадкі, але пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці, Масквы і Сталінграда ўдзячнае чалавецтва захавае памяць, таксама ж, як мы сёння памятаем пра герояў Фермапіл, што загінулі 15 стагоддзяў назад. І памятаем мы пра іх таму, што іх подзвіг (з пункту гледжання сучасных прагматыкаў — неразумнасць: тры сотні спартанцаў супраць тысяч персаў!) — найярчэйшы прыклад адстойвання сваёй і сваіх родных і блізкіх свабоды, гонару і годнасці.

Тут самы час зноў вярнуцца да таго, пра што ішла размова вышэй — да «смердзякоўшчыны», у якой, як мы ўжо гаварылі, многія «крытычна мыслячыя асобы» абвінавачваюць камуністаў. Аднак няцяжка пераканацца ў тым, што смердзяковымі якраз з'яўляюцца яны самі, а не камуністы. Для гэтага дастаткова звярнуцца хоць бы да артыкула Н. Іванова, апублікаванага ў студзеньскім нумары «незалежнай» газеты «Грунвальд» за 1990 год, у якой аўтар, спрабуючы апраўдаць прыслужнікаў акупантаў, прадставіць іх такімі ж ахвярамі — спачатку сталінізму, а потым фашызму, што тысячамі ляжаць у курапатах і хатынях, піша: «Трэба зразумець, што тысячы беларусаў пайшлі служыць да немцаў у надзеі, што новы парадак, які б цяжкі ён ня быў, будзе лепшы ад нялюдскага сталінізму, што сваёй крывёй і самаадданасьцю можна будзе забясьпечыць нармальнае жыцьцё і нейкую, няхай абмежаваную, але свабоду свайму народу».

Няцяжка заўважыць, што гэтыя развагі Іванова маюць прамое духоўнае радство з «філасофіяй» лакея Смердзякова аб разумных і дурных нацыях. Напомнім яе. «У дванаццатым годзе было на Расію вялікае нашэсце імператара Напалеона французскага першага, бацькі цяперашняму, і добра, каб нас тады пакарылі гэтыя самыя французы: разумная нацыя пакарыла б вельмі дурную і прыстасавала да сябе. Зусім нават былі б іншыя парадкі-с». Ад сябе дадам, прымяняльна да тэарэтызаванняў Іванова: новыя парадкі-с.

Могуць запярэчыць: у пачатку мы заклікалі ўскрываць усю праўду аб вайне, не ўтойваючы і яе трагічных старонак, а цяпер вось быццам бы займаемся лакіроўкай сапраўднасці, ва ўрон яе аб'ектыўнасці. Але тут няма супярэчнасцей. Аналізуючы «белыя (а дакладней — чорныя) плямы» ў гісторыі вайны, патрэбна гэта рабіць узважана і тактоўна, не наносячы дадатковага болю ветэранам, якім і так у наш час жывецца нялёгка, не паказваць гераічнае мінулае краіны ўсяго толькі чарговай «чорнай дзіркай», якімі быццам бы кругом усеяны яе паслякастрычніцкі шлях. Тут аднолькава небяспечны як апалагетыка, чым нямала грашылі ў нядаўнім мінулым і гісторыкі, і літаратары, так і ачарненне, у чым сёння маюць вялікія набыткі некаторыя сучасныя публіцысты. Нельга выхоўваць на падмане будучых абаронцаў Радзімы, але нельга і пазбаўляць іх магчымасці самім непрадузята разабрацца з нашай ваеннай гісторыяй. Бо патрыятызм, што б там ні гаварылі, зусім не прыроджанае пачуццё, ён выхоўваецца, перадаецца з пакалення ў пакаленне. Карцінныя прыклады могуць выхаваць толькі лжэпатрыётаў, ачарненне — нігілістаў і цынікаў, якія не спыняюцца ў сваёй разбуральнай сіле перад зняважай магіл і помнікаў абаронцам Радзімы.

**М. ШУМЕЙКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 13 чэрвеня

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Поезд са станцыі дзяцінства». 1-я серыя.
**17.35.** «Пакацігарошак», «Казка пра старое рэха», «Дзіуны манеж». Мультфільмы.
**18.00.** Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Маленькія эпізоды з біяграфіі баявой песні». Часткі 1-я і 2-я.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.35.** Аспекты. Калі ёсць на зямлі гаспадар.
**20.25.** Тыдзень беларускага ўрада. Служба інфармацыі Савета Міністраў БССР паведамляе...
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «І зноў музыка». Фільм-канцэрт.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**12.00.** ТСН.
**12.15.** Паводле зводак МУС СССР.
**12.30.** «Абаронца Сядоў». Мастацкі фільм.
**13.15.** Разам з чэмпіёнамі.
**13.30.** Кінапанарама.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Знайсці каханую». Мастацкі фільм.
**16.20.** Свет захопленых. «Дай лапу, сябар!»
**16.35.** Творы К. Дэбюсі, Ф. Шапена, А. Марчэла, І.-С. Баха. Выканаўца — Д. Башкіраў (фартэпіяна).
**17.15.** «Вожыкава вопратка». Мультфільм.
**17.25.** Фільм—дзецям. «Нямухінскія музыкі».
**18.30.** ТСН.
**18.45.** ...Да 16 і старэйшым.
**19.25.** «Недыпламатычныя гутаркі». У передачы прымае ўдзел былы прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчэр.
**19.55.** Мастацкі фільм «Плач перапёлкі». 4-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.40.** Дзелавы кур'ер.
**21.55.** Камера глядзіць у свет.
**22.55.** Музычны фестываль у г. Кальмар (Францыя).
**23.50.** «Пад знакам «пі». У перапынку **(0.50)**—ТСН.
**1.35.** «Ільінскі пра Зошчанку». Фільм-канцэрт.
**2.40.** Мастацкі фільм «Плач перапёлкі». 4-я серыя.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**17.00.** «Грані». Мастацка-публіцыстычная праграма.
**18.00.** «Ці магчымы раскол у КПСС?»
**18.45.** Парламенцкі веснік Расіі.
**19.00.** «Голас Азіі». Прэзентацыя II Міжнароднага конкурсу папулярнай музыкі і песні.
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** «Голас Азіі». Частка 2-я.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** X летняя Спартакіяда народаў СССР. Плаванне.
**22.05.** «Шлях». Некалькі старонак з жыцця Героя Сацыялістычнай Працы Праскоўі Малінінай.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** «Позняя сустрэча». Мастацкі фільм.

### 14 чэрвеня

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Яго батальён». 2-я серыя.
**9.55.** «Вечны круг». Кінанарыс.
**10.10.** «Позняя сустрэча». Мастацкі фільм (М).
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Поезд са станцыі дзяцінства». 2-я серыя.
**17.35.** «Маленькія эпізоды з біяграфіі баявой песні». Часткі 3, 4, 5-я (фонд).
**19.00.** Панарама.
**19.30.** Наш каментарый. Прывід беспрацоўя.
**19.35.** Паказвае Гомель. Радзімічы.
**20.05.** Парламент: кантакты і кантракты. Першыя крокі супрацоўніцтва паміж БССР і Нарвегіяй.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Сяджу ля акенца...» Фільм-канцэрт.
**21.30.** «Зорка Максіма». Дак. фільм.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Раніца.
**9.05.** Мастацкі фільм «Плач перапёлкі». 5-я серыя.
**10.10.** Дзіцячы музычны клуб.
**10.55.** «Поця і Поціха». Мультфільм.
**11.15.** ...Да 16 і старэйшым.
**15.00.** ТСН.
**12.15.** «Раз на раз не прыходзіцца». Мастацкі фільм.
**13.30.** Музыка ў эфіры.
**14.00.** Камера глядзіць у свет.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** Фільм — дзецям. «Лета ў заапарку».
**15.40.** Свет захопленых. «Дамком».
**15.55.** Мама, тата і я.
**16.25.** «Вам, ветэраны...» Па старонках передачы «Пераможцы».
**17.45.** Палітычныя дыялогі. «Паспрабуйце мяне ад веку адарваць...» Аб адкрыцці грамадска-культурнага цэнтра пры Свярдлоўскім райкоме КПСС Масквы.
**18.30.** ТСН.
**18.45.** «Паданне пра Ігаравы паход». Мультфільм.
**19.10.** «Капіталізм з чалавечым абліччам». Тэленарыс.
**19.50.** Мастацкі фільм «Плач перапёлкі». 5-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.40.** Паводле зводак МУС СССР.
**21.55.** «ВІД» прадстаўляе: «Поле Цудаў», «Музагляд», «Справа», МТБ. У перапынку **(23.55)**—ТСН.
**1.10.** Культура рускага зарубежжа.
**2.00.** Мастацкі фільм «Плач перапёлкі». 5-я серыя.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**7.00.** Раніца дзелавога чалавека.
**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.20.** «Братка Трус і братка Ліс». Мультфільм.
**8.30.** «Спыніся, імгненне». Аб сустрэчы з ваеннымі карэспандэнтамі ў 1986 годзе.
**17.00.** «Вандроўнікі». Пра лёс савецкіх немцаў.
**18.20.** Невядомая Расія. «З душы сваёй накіды...»
**18.50.** Дак. фільм.
**19.00.** «Шчырая размова». Перадача з Палтавы.
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** «Зона бедства. Хроніка адраджэння».
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** На сесіі Вярхоўнага Савета СССР.
**22.40.** «Свет персанальных камп'ютэраў».
**23.00.** Весткі.
**23.15.** «Пятае кола». Мастацка-публіцыстычная праграма.



## РАДЫЁ

### 14 чэрвеня

7.00 — «Радыёфакт». Ранішняя інфармацыйная праграма. 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. «Ялцінскія сустрэчы». Радыёрасказ Л. Вацюшкавай. Частка 2-я, заключная. 10.15 — радыёстанцыя «Арляняты». «Верасок». Радыёзборнік. 10.40 — А. Васілевіч. «Я — унук капітана». Радыёпастаноўка. 11.20 — «Прафкомы: паўнамоцтвы і дзеянні». 12.00 — радыёстанцыя «Саюз». 12.30 — «У абедзенны перапынак». Інфармацыйна-музычная праграма. 13.30 — «На хвалі часу». 14.10 — «Ваша думка, ваша прапанова». Перадача па пісьмах і тэлефонных званках радыёслухачоў. 14.50 — «Зона асаблівай увагі». Паведамленні з Дзяржаўнага камітэта БССР па праблемах вынікаў катастрофы на ЧАЭС. 15.15 — музычная праграма, прысвечаная калектыву Гомельскага аўтамабільнага транспартна-экспедыцыйнага парка № 3. 16.15 — «Горн». Праграма для піянераў. 16.40— А. Пісарык. Вершы. 17.15 — канцэрт. 18.40 — «У цяжкі час вайны суровай». «Голас зямлі». Радыёкампазіцыя паводле твораў Я. Коласа. 19.30 — «Парламенцкі дзённік». 20.00 — вячэрняя казка. 20.10 — «Дзень нашага жыцця». На сесіі Вярхоўнага Савета БССР. 20.30 — «Міжнароднае становішча». Пытанні і адказы. 21.00 — «Панарама амерыканскай музыкі». 22.15 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 23.15 — радыёстанцыя «Юнацтва».

## НАДВОР'Е

### 13 чэрвеня

**Усход, захад, даўжыня дня:**
**Мінск — 4.37, 21.41, 17.04; Віцебск — 4.19, 21.39, 17.20; Магілёў — 4.27, 21.30, 17.03; Гомель — 4.32, 21.19, 16.47; Гродна — 4.54, 21.55, 17.01; Брэст — 5.04, 21.46, 16.42.**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць. У паўночна-заходніх раёнах невялікі дождж. Тэмпература паветра ў Віцебску — 18—20, Магілёве, Мінску — 20—22, Гомелі, Гродна — 21—23, Брэсце — 23—25 градусаў цяпла.

***

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовы дождж, навальніца. Тэмпература паветра ўначы — 7—12, удзень — 18—23 градусы цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ
## СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Пастанова Бюро ЦК КПБ.**

**«Аптымізм або рэалізм».** Гутарка з намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Г. Казловым.

**На злобу дня.** Намеснік старшыні Дзяржмаёмасці БССР І. Лях разважае аб пытаннях раздзяржаўлення і прыватызацыі ўласнасці.

Карэспандэнцыя **«Беларусь — Казахстан: мы патрэбны адзін аднаму»**. Аб развіцці турызму.

**«Шчаслівы ад сустрэчы са сваім героем»** — думкі акцёра тэатра імя Я. Купалы Віктара Манаева.

З залы суда. **«Ох, спіць ахова...»**

Да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. **«Ёй усё яшчэ сніцца вайна».**

Абзац. Кур'ер планеты. Саюзна-рэспубліканская інфармацыя.







**Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.**

НАШ АДРАС

220041, гор. Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

**ТЭЛЕФОНЫ:** прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52; 32-41-92, рэкламы і аб'яў — 32-35-91, навін — 32-60-13.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Тыраж 102.822.
Індэкс 63850.
Зак. № 114.

*Выходзіць 250 разоў на год.*

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12